Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.

тэл. № 23-287.

№ 21-22 | Год выдання 1-ы | 31 ліпеня 1935 г. | № 21-22

## Арганізаваць вытворчасць абсталявання для гандлёва-складской сеці

*(У парадку пастаноўкі пытання)*

На аснове роста вытворчасці прадметаў шырспажыва і харчовых прадуктаў, развіваецца савецкі гандаль і складская сетка.

Для абсталявання гандлёвых і складскіх прадпрыемстваў патрабуецца рад прадметаў прамысловай вытворчасці, якія звязаны з культурным абслугоўваннем спажыўца, а іменна: ветчынарэзкі, сырарэзкі, хлебарэзкі, мясарэзкі і інш. Ёсць рад дробных мэталічных прадметаў складской гаспадаркі, якія аблягчаюць працу кладаўшчыка, паскараюць дастаўку тавараў у розьнічную сець і аберагаюць ад псавання ўпаковачную тару і ўпаковачны матэрыял. Да такіх прадметаў адносяцца: гвоздэдэры, пламбіроўкі (для меткі), спецыяльныя нажы, саўкі, шчупы, наколкі і інш. Нарэшце, прадметы ўнутрыскладскога транспарта, як тачкі, спецыяльна прыстасаваныя для featurnaga рода тавараў, прадметы пагрузкі і выгрузкі, неабходныя для складской гаспадаркі.

Ва ўсіх вышэйпаказаных прадметах адчуваецца вялікі недахоп. Між тым, прадпрыемствы Наркамместпрома і часткова арцелі прамысловай каапераціі маглі ў гэтых адносінах пайсці насустрэч гандлюючай сеці і ўзяць на сабе выраб некаторых з вышэйпаказаных прадметаў, а ў адносінах да больш складаных—арганізаваць адпаведную вытворчасць.

Так, прамысловая каапераця мае магчымасць без вялікай цяжкасці наладзіць выраб сырарэзак, хлебарэзак, саўкоў, спецыяльных нажэй, шчупаў, наколак. На больш тэхнічна абсталяваных прадпрыемствах можна было арганізаваць вытворчасць гвоздэдэраў, пламбіровак і т. п. Гэтыя прадметы могуць вырабляцца і ўтыльцэхамі мэталаапрацоўваючых прадпрыемстваў.

Больш складаным з'яўляецца пытанне вырабу ветчынарэзак па замежнай модэлі, аднак, і выпуск гэтай прылады можна было наладзіць.

Выраб спецыяльных вагавых прыбораў (без гір) магла-бы, пры адпаведным тэхнічным кіраўніцтве, наладзіць вагавая майстэрня і менскі завод „Ударнік". Апошні можа таксама узяць на сабе выраб некаторых відаў унутры-складскога транспарта.

Мэтай гэтай заметкі з'яўляецца—пастаноўка пытання ў парадку дня з тым, каб гандлюючая сетка і спажыўкааперацыя дагаварыліся-бы з вытворчымі арганізацыямі НКМестпрома і промкааперацыі аб хутчэйшай арганізацыі вытворчасці так неабходнага для гандлёва-складской сеці абсталявання. А. Р.

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Наркамунутгандль БССР забараніў практыку размеркавання веласіпедаў па прадпрыемствах і установах, выдачу ордэроў, запрашальных білетаў і інш.

У далейшым атрымліваемыя гандлюючымі арганізацыямі веласіпеды рыначнага фонда павінны прадавацца ў парадку адкрытай продажы ўсяму насельніцтву.

◆ У сувязі з фактамі паступлення на прадпрыемствы хлебавыпякаючых арганізацый не стандартнай мукі і адсутнасцю барацьбы з боку выпякаючых арганізацый за прыёмку добраякаснай мукі, Наркамунутгандль абавязаў Белпромхлеб, прадпрыемствы нетрэсціраванага хлебапячэння і ОРС'ы рэгулярна інфарміраваць Наркамунутгандль аб усіх выпадках паступлення нестандартнай і дэфектнай мукі, абавязкова ўказваючы з якога месца і млына мука паступіла.

◆ У мэтах больш поўнага выяўлення попыта і запатрабаванняў рынка на сезонныя швейныя вырабы, Наркамунутгандль прапанаваў гандлюючым арганізацыям безадкладна прыступіць да распрацоўкі асартымента швейных вырабаў на IV-ы квартал г. г., узгадніўшы яго з Белшвейзбытам.

Работа гэта павінна быць скончана не пазней 15 жніўня.

◆ Наркамунутгандаль і Белканвенцбюро дазволілі станцыонным буфетам, вагон-рэстаранам, параход-рэстаранам і заводскім сталовым закупаць усе ня-





збожжавыя сельска-гасп. прадукты, за выключэннем яек, на калгасных базарах, кірмашах, у сельскіх мясцовасцях, раённых цэнтрах і гарадскіх рабочых пасёлках па ўстаноўленых канвенцыйных цэнах.

◆ Наркамунутгандаль БССР прапанаваў Белскурабутковаму трэсту забяспечыць у трэцім квартале выраб фабрыкай ім Куйбышава не менш 6000 штук школьных сумак да наступаючага навучальнага года.

◆ Наркамунутгандаль БССР абвясціў вымову дырэктару Бабруйскай канторы Белгандля т. ГАРЭЛІКУ за наяўнасць растрат па сістэме Бабруйскай канторы на суму 32.436 руб.

Тав. ГАРЭЛІК папярэджан, што непрыняцце рашучых мер па спагнанню ўсіх растрачаных сум і дапушчэнне растрат у 1935 годзе пацягне за сабой больш суровыя меры ўздзейнічання.

◆ Нарком Унутранага Гандля БССР т. ГУРЭВІЧ загадам па Наркамату абвясціў падзяку за узорную пастаноўку работы ў ларках Менхарчгандля на Чэрвенскім рынку работнікам ларкоў: т.т. МІНІНАЙ (ларок № 22), МУРАХ (ларок № 39), БАТВІНІКУ (ларок № 56) і работніцы прылаўка т. БУШЭВІЧ.

◆ Для ўзмацнення барацьбы з растратамі Наркамунутгандаль прапанаваў дырэктарам гаспадарчагандлёвых аб'яднанняў НКУГ БССР прыняць захады да поўнай ліквідацыі незаконных із'яццяў грошай з дзённых выручак, праверыць наяўны кантынгент падсправаздачных асоб і выключыць з спісаў тых, у якіх падсправаздачныя сумы з'яўляюцца фактычна нелегальнай касай.

◆ У мэтах палепшання работы чыгуначных буфетаў, лепшага абслугоўвання пасажыраў,—Наркамунутгандаль даручыў Белбродтрэсту даць распараджэнне сваім заводам аб рэгулярным снабжэнні чыгуначных буфетаў півам і прахладжальнымі водамі.

Горрайунутгандлям буйнейшых чыгуначных вузлоў і станцый БССР прапанавана асабіста заняцца пытаннем работы чыгуначных буфетаў, забяспечыўшы патрэбнасць апошніх у ранняй гароднine і прахладжальных водах.

◆ У звязку з набліжаючымся выпускам школы Наркамунутгандля па падрыхтоўцы загадчыкаў магазінаў і іх памочнікаў у колькасці 55 асоб,—вылучана атэстацыйная камісія курсаў у складзе тавары шоў КРУГЛІКА, ГУРВІЧА, ЦЕПЛАГА і намесніка дырэктароў Белхарчгандля і Белгандля.

# У Канвенцыйным Бюро пры Наркамунутгандлі БССР

Канвенцбюро адзначыла безадказныя адносіны да правільнага правядзення совецкай палітыкі цэн з боку кіраўнікоў Упраўлення загатовак Менгорспажыўсаюзу, якое выразілася ў тым, што гандлёвая сетка Упраўлення загатовак прадавала маліну па 5 р. за кгр. замест ўстаноўленых Канвенцбюро—3 р. кгр.

Тав. Крэйніну—старшыні Горспажыўсаюза прапанавана неадкладна перааценіць маліну, згодна ўстаноўленых цэн—3 р. за кгр. і прыцягнуць да стражайшай адказнасці вінаватых у грубым парушэнні цэн.

* * *

Канвенцыйным Бюро ўстаноўлены аптоваадпускныя цэны франко-вытворчасць на наступную прадукцыю:

### Вырабы кааперацыі інвалідаў:

Туфлі жаночыя, чорныя, хромавыя на гумавай падэшве, размер 34—39—19 руб.

Балеткі ўцільныя на кольцах, гумавай падэшве, прашыўныя, размер—34—39—5 р. 45 к.

Балеткі дзіцячыя хромавыя на скуранай падэшве з адным пераплётам, з пражкай, механічныя, размер 22—26—3 р. 75 к.

Баціпкі жаночыя шэўрэтавыя на скуранай падэшве—размер 35—39—23 руб.

Сандаліі дзіцячыя юхтавыя на скуранай падэшве, прашыўныя, размер 22—26—5 руб.

Боты мужчынскія шагрэневыя, на скуранай падэшве, скразная падкладка, размер 40—43—62 руб.

### Вырабы беларускага таварыства сляпых:

Валенкі цвёрдыя, размер 40—41 шэрсцяныя—28 р. 65 к.

### Вырабы МФПК НКВД:

Крэсла шведска-амерыканскае, дубовае з цвёрдым сядзеннем, лакіраванае—12 р. 22 к.

Паўбуфет дубовы, фарніраваны з абодвых бакоў, лакіраваны, размер 1,97 × 84 × 46 без ветража—104 руб.

Кухонная шафа сасновая, філенгі фарніраваныя з двума дзверцамі, адной скрынкай, размер 0,90 × × 85 × 52, афарбаваны масляной фарбай—29 руб.

Прыложкавая тумбачка сасновая, філенгі фарніраваныя з двума аддзяленнямі, размер 80 × 42 × 42, афарбаваная масляной фарбай—15 руб.

Канвенцбюро абавязала МФПК выпускаць тумбачкі і кухонныя шафы абавязкова з замкамі.

Спартсменкі з свінога хрома на сітцавай падкладцы з 8 кольцамі, на гумавай падэшве, размер 34—39—16 р. 13 к.

Туфлі парусінавыя белыя на гумавай падэшве, падбіты цвікамі тэкс, размер 35—39—8 р. 84 к.

Туфлі парусінавыя белыя, размер 31—34 на гумавай падэшве, падбіты цвікамі—8 р. 10 к.

Бацінкі шэўровыя чорныя—размер 31—34—на гумавай падэшве, падбіты цвікамі тэкс—8 р. 88 к., таксама размерам 27—30—8 р. 28 к., таксама размер 22—26—7 р. 83 к.

### Вырабы Белколэспромсаюза:

Буфет—сервант, сасновы, фарніраваны, размер 205 × 120 × 50 × 42, лакіраваны або пакрыты воскам, без ветража, выпрацоўваемы арцелямі ім. Молатава (Рагачоў), „1-е мая" (Парычы) „Чырвоны мебельшчык" (Жлобін)—249 руб.

Буфет тумбачны з вострымі кутамі фарніраваны размер 205 × 135 × 45 выпрацоўкі арцелі „Чырвоны мебельшчык" (Жлобін), ім. Молатава (Рагачоў) і

„1 е мая“—(Парычы)—290 руб. Такі-ж буфет з паўкруглымі кутамі выпрацоўкі тых-жа арцеляй—320 руб.

Буфет тумбачны разборачны фарніраваны, філенгі дзвярэй фарніраваныя з абодвых бакоў, лакіраваны, разм. 205 × 150 × 58 × 40, выпрацоўвае Менская арцель „ДО“—400 руб.

Паўбуфет—сервант сасновы, фарніраваны дубам, лакіраваны без ветража, размер 200 × 100 × 50 з верхняй паўкруглай шафай—выпрацоўвае арцель „Камунар“ (Смілавічы)—172 руб.

Шкаф ардзінарны, фарніраваны дубам з круглымі кутамі з адной скрынкай, лакіраваны, размер 195 × × 80 × 50, выпрацоўвае арцель „Чырвоны мебельшчык“ (Бабруйск)—19 руб.

Сталы кватэрныя двухскрыначныя, сасновыя, лакіраваныя, верх пакрыты эмалью, размер 130 × × 78 × 78, выпрацоўвае арцель „Камунар“ (Смілавічы)—47 руб.

Стол кватэрны сасновы двухскрыначны, ногі точаныя, размер 130 × 78 × 78, лакіраваны, выпрацоўвае арцель „Чырвоны мебельшчык“ (Бабруйск)—43 рубля.

Стол сасновы абедзены, лакіраваны, ногі точаныя, размер 120 × 75 × 78, выпрацоўвае арцель „Чырвоны мебельшчык“ (Бабруйск)—27 р. 30 к.

Крэсла шведска-амерыканскае, дубовае, з жорсткага фабрычнага сядзення, лакіраванае, размер 93,5 × × 46 × 44 × 43 выпрацоўвае арцель „Свет“—станцыя Ясень—14 р. 50 к.

Кушэтка пружынная на 18 пружынах, крытая крэтонам, на точаных ножках са спінкай—размер 165 × × 65 × 50, выпрацоўвае арцель „Чырвоны мебельшчык“ (Бабруйск)—65 руб., таксама жорсткая набіта драўлянай шэрсцю, выпрацоўвае тая-жа арцель—45 руб.

Матрацы пружынныя на 40 пружынах, пакрыты матрацным цікам, пружыны ўстаноўлены на провалачнай сетцы, вязка бічоўкай, размер 188 × 88 × 26, выпрацоўвае Бабруйская арцель „Чырвоны мебельшчык“ —74 руб.

Перынка ардзінарная, прамая, з прамым бокам, пакрыта сітцам, размер 175 × 70, выпрацоўвае арцель „Чырвоны мебельшчык“ (Бабруйск)—16 р. 60 к.

Вешалка для ручніка точаная, дубовая, круглая, лакіраваная, выпрацоўвае Менская арцель „ДО“—3 р. 95 к.

Вешалка стаячая—на трох ножках, лакіраваная, для адзення і галаўных убораў, выпрацоўвае Бабруйская арцель „Чырвоны мебельшчык“—16 руб.

Полачка насценная—для ручніка, лакіраваная выпрацоўкі Бабруйскай арцелі „Чырвоны мебельшчык“—3 р. 08 к.

Карніз круглы, точаны з кронштэйнамі і кольцамі, лакіраваны, размер 130, выпрацоўвае гэтая-жа арцель—5 р. 50 к.

Карніз сасновы разрэвны, точаны, лакіраваны, размер 120—140 выпрацоўкі той-жа арцелі—2 р. 43 к. Карніз точаны з кронштэйнамі і кольцамі, лакіраваны, выпрацоўкі Менскай арцелі „ДО“, размер 120—140—6 р. 64 к.

Шчоты канцэлярскія на дубовай рамцы, костачкі грабавыя, провалака белая стальная 3 *мм*, размер 45—27,5—10 р. 50 к.

Стульчык дзіцячы начны выпрацоўкі Менскай арцелі „ДО“—3 р. 50 к.

**Паказаныя цэны ўстаноўлены для вырабаў І-га гатунка. Для вырабаў ІІ-га гатунка вышэйпералічаныя цэны па меблі зніжаюцца на 15 проц., па абутку—на 10 проц.**

* * *

Збытавым Канвенцбюро Наркамунутгандля БССР устаноўлены наступныя максімальна гранічныя рознічныя цэны на с/г. прадукты, загатаўліваемыя ў парадку дэцэнтралізаваных загатовак.

**На масла кароўе:** для гарадоў Менска, Гомеля, Віцебска, Бабруйска, Барысава, Магілёва, Оршы, Полацка, Мазыра і Рэчыцы—14 руб. кгр. І гатунку і 12 руб. ІІ—гатунку; для астатніх гарадоў і раёнаў БССР—13 р. І гатунку і 12 р.—ІІ гатунку.

**На масла таплёнае:** для вышэйпералічаных 10 гарадоў—13 р. кгр. І гатунку і 12 р. кгр. ІІ гатунку: для астатніх гарадоў і раёнаў БССР—12 руб. кгр. І гатунку і 11 руб. кгр. ІІ гатунку.

**На малако цэльнае:** для вышэйпералічаных 10 гарадоў—75 кап. за літр, для астатніх гарадоў і раёнаў БССР—60 кап. за літр.

Устаноўлены таксама максімальна гранічныя рознічныя прадажныя цэны на мяса, загатаўліваемае ў парадку дэцзагатовак для гарадоў: Менска, Гомеля, Віцебска, Магілёва, Оршы, Барысава, Бабруйска, Полацка, Мазыра, Жлобіна і Рэчыцы:

**Мяса свіное сальнае:**—7 р. 10 к. за кгр., полусальнае—6 р. 75 к. кгр., разрубнае—6 р. 50 к. кгр.

**Мяса—бараніна:** жырнай упітанасці—5 р. 90 кап. кгр., вышэй сярэдняй упітанасці—5 р. 50 кап. кгр., сярэдняй упітанасці—5 руб. кгр. і ніжэй сярэдняй упітанасці—4 руб. 25 кап. кгр.

Для астатніх гарадоў і раёнаў БССР:

**Мяса свіное:** сальнае—6 р. 35 к. кгр., полусальнае—6 р. 10 к. кгр., разрубнае—4 р. 80 к. кгр.

**Бараніна:** жырнай упітанасці—5 р. 40 к. кгр., вышэй сярэдняй упітанасці—5 р. кгр., сярэдняй упітанасці—4 р. 50 к. кгр. і ніжэй сярэдняй упітанасці – 3 р. 70 к. кгр.

Устаноўлены наступныя максімальныя гранічныя рознічныя цэны на **мяса буйнай рагатай жывёлы**, загатаўліваемай у парадку дэцзагатовак для 11-ці вышэйпералічаных гарадоў: жырнай упітанасці — 5 р. 50 к. кгр., вышэй сярэдняй упітанасці—4 р. 90 к. кгр., сярэдняй упітанасці—4 р. 40 к. кгр. і ніжэй сярэдняй упітанасці—3 р. 60 к. кгр.

Для астатніх гарадоў і раёнаў: жырнай упітанасці—5 р. кгр., вышэй сярэдняй упітанасці—4 р. 50 к., сярэдняй упітанасці—4 р. 10 к., ніжэй сярэдняй упітанасці—3 р. 40 к. кгр.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Конкурс на лепшую гандлёвую арганізацыю і лепшы магазін

### Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР і Цэнтральнага Праўлення Саюза Работнікаў Дзяржаўнага Гандля БССР.

28 чэрвеня 1935 г. **№ 341** г. Менск.

Надаючы выключна важнае палітычнае значэнне абвешчанаму Наркамунутгандлем СССР конкурсу на лепшае выкананне гандльфінплана і ўзорную пастаноўку культурнага совецкага гандля, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Прэзідыум ЦП Саюза дзяржгандля пастанаўляюць:

1. Уключыцца ў абвешчаны Наркамунутгандлем СССР усесаюзны конкурс на лепшую гандлёвую арганізацыю і магазін і абвясціць Усебеларускі конкурс на лепшую кантору і магазін сістэмы Белхарчгандля і Белгандля, паклаўшы ў аснову конкурса паказчыкі, распрацаваныя ў палажэнні аб Усесаюзным конкурсе.

2. Для кіраўніцтва конкурсам зацвердзіць Рэспубліканскую конкурсную камісію ў складзе: Наркома Ўнутранага Гандля БССР т. ГУРЭВІЧА (старшыня), старшыні ЦП Саюза работнікаў дзяржгандля т. ЗАХАРАВАЙ (нам. старшыні), рэдактара газеты „Рабочий" т. ХЕЙФЕЦА, дырэктара Белхарчгандля т. ЦІМЕНКА, дырэктара Белгандля т. МОВШЭНЗОНА, партарганізатара Белхарчгандля т. ПАРХІМЧЫКА, старшыні мясцкома Белгандля т. КАЧАНОЎСКАГА і т. БЕРХІНА (адказны сакратар камісіі).

3. У гарадах стварыць аперацыйныя пяцёркі (конкурсныя камісіі) у складзе: Горгандля (старшыня), старшыні групкома Саюза дзяржгандля, дырэктароў кантор Белгандля і Белхарчгандля і прадстаўніка раённай газеты, на якія ўскласці кіраўніцтва конкурсам па гораду.

4. Абавязаць усе канторы Белхарчгандля і Белгандля і групавыя камітэты Саюза неадкладна абгаварыць пытанне аб уключэнні ў конкурс, шырока распрацаваць і давесці да кожнага магазіна і работніка прылаўка палажэнне аб конкурсе, прыняўшы на сябе канкрэтныя абавязкі па забеспячэнню ўмоў конкурса.

5. Маючы на ўвазе, што пасяховасць выканання ўмоў конкурса і поспех у рабоце залежыць выключна ад ступені разгортвання сапраўдных метадаў соцыялістычнай работы—прапанаваць усім канторам і групавым камітэтам саюза шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва ўнутры саміх кантор, паміж магазінамі, паасобнымі работнікамі, а таксама міжраённыя спаборніцтвы кантор, прадугледзіўшы ў соц. дагаварах канкрэтныя лічбовыя абавязацельствы па ўсіх паказчыках конкурса. Групавым камітэтам саюза разгарнуць вакол конкурса шырокую масавую работу, паставіўшы перад кожным работнікам задачу поўнага выканання ўмоў усесаюзнага конкурса.

6. Разгортванне і ўвесь ход конкурса шырока асвятляць у газеце „Советская торговля", у рэспубліканскім, раённым і насценным друку, асвятляць работу асобных магазінаў і работнікаў, паказваючы лепшыя ўзоры работы, пераносячы лепшыя вопыты работы магазінаў і людзей на ўсю астатнюю гандлёвую сетку.

7. Прапанаваць групавым камітэтам саюза і дырэктарам кантор у практычнай рабоце па выкананню умоў конкурса і прынятых на сябе абавязацельстваў, шырока практыкаваць вытворчыя нарады непасрэдна па магазінах.

8. У мэтах дасягнення найбольшых поспехаў па конкурсу выклікаць на соцспаборніцтва Леноблпромгандаль і Леноблхарчгандаль.

9. Стварыць спецыяльны фонд прэміравання па Ўсебеларускаму конкурсу для лепшых работнікаў (дырэктароў кантор, аперацыйных работнікаў), тры грузавых аўтамашыны, 10 веласіпедаў і 15000 руб.

10. Абавязаць гарадскія конкурсныя камісіі матэрыял аб разгортванні конкурса і праведзенай масавай рабоце даслаць Рэспубліканскай камісіі не пазней 10 ліпеня 1935 г. і ў далейшым сістэматычна інфарміраваць аб ходзе конкурса.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

Старшыня ЦП Саюза Работнікаў Дзяржгандля **Захарава**

---

## Аб становішчы з завозам уборачнага інвентара

(*З пастановы Наркамунутгандля БССР*).

Прыняць да ведама заяву прадстаўніка гандлёвага аддзела Белкаапсаюза аб наступнай забяспечанасці БССР уборачным інвентаром:

Кос завезена у Райспажыўсаюзы—381 тыс. штук пры патрэбнасці—279 тыс. штук, сярпоў—адпаведна—303 тыс. шт. і 168 тыс. штук, брускоў—183 тыс. штук і 195 тыс. штук, малаткоў—49 тыс. штук і 52 тыс. штук, бабкаў—43 тыс. шт. і 48 тыс. штук, калец для кос—89 тыс. штук і 91 тыс. штукі шорных вырабаў на—508 тыс. руб. пры патрэбнасці на 1 млн. руб. Дадаткова на III-ці квартал вызначан фонд шорных вырабаў у 300 тыс. руб.

Улічваючы, што з боку паасобных раёнаў ёсць попыт на манташкі—прапанаваць гандлёваму кіраўніцтву Белкаапсаюза абавязкова забяспечыць патрэбнасць раёнаў у манташках.

Абавязаць т. ГЕЗІНА узяць пад асобны вагляд прасоўванне ўборачнага інвентара з Райспажыўсаюзаў у сельпо, ні ў якім разе не дапушчаючы залежвання інвентара на складах Райспажыўсаюза.

# Аб мерах барацьбы з растратамі

## Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

27 чэрвеня 1935 г. **№ 219** г. Менск.

На аснове загада Наркамунутгандля СССР ад 17 мая 1935 г. № 844 і матэрыялаў аб растратах па сістэме Белхарчгандля за 1-шы квартал г. г. у суме 98 тыс. руб., аднаразовых растрат па Мазырскай канторы Белгандля ў суме 20 535 руб. і Аршанскай—12 400 руб., што сведчыць аб тым, што па аб'яднаннях Наркамунутгандля БССР няма жорсткай барацьбы за ажыццяўленне дырэктыў партыі і урада аб ахове соцыялістычнай маёмасці,—загадваю:

Дырэктарам гаспадарчых аб'яднанняў Наркамунутгандля БССР на працягу III-га квартала 1935 г. дабіцца рашучага пералома па ліквідацыі растрат і хішчэнняў, для чаго:

1. Наладзіць кантроль над работай у магазінах. Устанавіць, як правіла, поўную рэвізію кожнага магазіна адзін раз у год і зняцце таварных астаткаў у прадуктовых магазінах штомесячна, а ў промтаварных—адзін раз у квартал. Практыкаваць, як правіла, раптоўныя рэвізіі сеткі і аб выніках рэвізіі ставіць наркамат у вядомасць.

2. Арганізаваць па ўсёй гандлюючай сетцы масавы рабочы кантроль (шэфскія брыгады, крамныя камісіі, сэкцыянеры і т. д.), увязаўшы гэта пытанне з прафсаюзнамі арганізацыямі.

3. Усе справы аб растратах і хішчэннях перадаваць судова-следчым органам у працягу 5 дзён пасля канчатковага выяўлення растраты, з абавязковым прад'яўленнем грамадзянскага іска да растратчыкаў.

4. Дабівацца перад пракурорамі на месцах арганізацыі па найбольш буйных растратах судова-паказальных працэсаў над растратчыкамі.

5. Нагляд за своечасовай перадачай спраў следча-судовым органам, прасоўваннем спраў у судох—ускласці на інспектарскія групы і персанальна на кіраўнікоў гэтых груп.

6. Ускласці адказнасць за правільнае і своечасовае афармленне матэрыялаў па растратах у частцы ўчота на галоўных бухгальтароў міжраённых кантор і на старшых бухгальтароў гаспадарча-разліковых магазінаў.

7. Асоб, якія затрымліваюць своечасовае афармленне матэрыялаў па растратах і перадачу спраў у судовыя органы—прыцягваць да адказнасці нараўне з растратчыкамі, як пасобнікаў расхішчэння соцыялістычнай маёмасці.

8. Дырэктарам аб'яднанняў міжрайкантор правесці ў трэцім квартале праверку асабістага склада гандлёвага апарата з мэтай ачысткі ад жулікаў, класава-чуждых элементаў. Прыём на работу праводзіць выключна з папярэдняй праверкай атэстацыйнай камісіі кожнага работніка ў паасобку, запытваючы ў абавязковым парадку характарыстыку з папярэдняга месца работы. Катэгарычна забараніць прыём на работу асоб, якія маюць у мінулым спагнанні за хішчэнні—растраты. Неадкладна зволіць усіх асоб у якіх устаноўлены растраты.

9. Папярэджваю ўсіх дырэктароў аб'яднанняў аб іх персанальнай адказнасці за правядзенне ў жыццё гэтых мерапрыемстваў і што за непрыняцце рашучых мер па барацьбе з хішчэннямі і растратамі яны будуць прыцягнуты да стражайшай адказнасці аж да зняцця з работы і аддачы пад суд.

10. Горрайунутгандлям прасачыць за ажыццяўленнем паказаных мерапрыемстваў.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

---

# Узмацніць барацьбу са спекулянтамі і перакупшчыкамі

## Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР.

20 ліпеня 1935 г. **№ 252** г. Менск.

Не гледзячы на катэгарычнае патрабаванне Наркамунутгандля 13 чэрвеня г. г. аб дасылцы да 26 чэрвеня інфармацыйных вестак аб праведзеных мерапрыемствах па барацьбе са спекуляцыяй і перакупкай на калгасных базарах, да гэтага часу такой інфармацыі ад Горунутгандляў не паступіла.

Звяртаючы ўвагу на недапушчальнасць такіх адносін да важнейшага пытання загадваю:

1. Неадкладна выканаць распараджэнне за № 17—ад 13 чэрвеня г. г.

2. У дадатак да ранейшых распараджэнняў і мерапрыемстваў прапаную:

а) разгарнуць на базарах сетку камісійных палатак для прыёма на камісію паношаных рэчаў асабістага ужытку, абмеркаваўшы гэтае пытанне з гандлюючымі арганізацыямі,

б) для саматужнікаў, якія гандлююць прадукцыяй сваёй вытворчасці на базарах (талкучках) вылучыць асобныя рады, арганізаваўшы для іх сталы, рундукі і т. д.

в) паставіць пытанне перад Гарсоветамі аб стварэнні брыгад „Осодміла“ (таварыства садзейнічання міліцыі) у дапамогу міліцыі і грамадскага актыва з дэпутатаў Горсовета, кааператыўнага актыва і шэфскіх арганізацый вакол дырэкцый базара;

г) не радзей аднаго раза у месяц пры Горунутгандлях склікаць нарады дырэктароў базараў, пракуратуры, работнікаў міліцыі, фінаддзела, гандлюючых арганізацый і грамадскасці для распрацоўкі канкрэтных мерапрыемстваў і абмеркавання пытанняў барацьбы са спекуляцыяй, дзе намеціць неабходныя мерапрыемствы.

3. Горунутгандлям штомесячна, не пазней 10 числа інфармаваць Наркамунутгандль аб праробленай рабоце у адпаведнасці з гэтым загадам.

4. Аддзелу арганізацыі гандлёвай сеткі і рэгулявання цэн мець стражайшы нагляд за выкананнем гэтага загада Горунутгандлямі і 15 числа кожнага месяца прадстаўляць мне зводку атрыманых за прайшоўшы месяц матэрыялаў.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# Поўнасцю захоўваць рэцэптуру і правільную вагу булачных вырабаў

## Загад па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

17 ліпеня 1935 г. № 243 г. Менск

Праведзенай праверкай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыяй пры НКУГ СССР па БССР выяўлена, што прадпрыемствамі трэста Белпромхлеб не выконваецца пастанова Наркамунутгандля СССР ад 14.I—35 г. № 28 аб абавязковым захаванні рэцэптуры і правільнай вагі пры выпечцы булачных вырабаў у (штуках).

1. Па Менскай саматужнай арцелі (загадчык РЭЦІК) пры выпечцы халак, плецёнак з мукі 30% памола, жывотнае масла замяняласяраслінным маслам да 30 проц., пры павялічанні спажывання яек да 150 проц., замена жывотнага масла—раслінным маслам пры выпечцы французскіх булак.

2. Хлебазавод (дырэктар т. САГАЛАЎ) пры выпечцы сушак—зусім не даваў установленай нормы патакі.

3. З праверяных выпечаных Менскім хлебакамбінатам (дырэктар т. НЯМІРСКІ):

а) французскіх булак—105 шт., правільная вага была толькі ў 17 штуках, у 25 шт.—з розным недавесам, у 63 шт., з перавесам;

б) плецёнкі—з 41 шт.—правільная вага была толькі ў аднэй, 34 шт. з перавесам і 6 шт. з недавесам;

в) здоба венская—выпечкі венскага цэха фабрыкі „Камунарка“ (загадчык т. ЗЕЛІКМАН)—з правераных 30 шт., правільная вага аказалася толькі ў 14 штуках, 7 шт. з перавесам, у 9 шт.—з недавесам;

г) піроженыя—з правераных 56 штук, правільная вага аказалася толькі у 10 шт., у 19 шт.—з перавесам і ў 27—шт.—з недавесам.

Такое-ж становішча ўстаноўлена праверкай па Віцебскаму і Бабруйскаму хлебазаводам.

Выходзячы з гэтага загадваю:

1. Давесці да ведама нам старшыні Прэзідыума Белкаапсаюза т. ШАБОЛТАСА і Упаўнаважанага Наркамхарчпрома т. РАКСІНА, што не гледзячы на неадчаразовыя папярэджанні кіраўнікоў Менскага хлебакамбіната і загадчыка венскім цэхам фабрыкі „Камунарка“ аб недапушчэнні выпуска ў продаж булачных і кандзіцерскіх вырабаў з неправільнай вагой і неправільнага прымянення ўстаноўленай рэцэптуры—з іх боку па гэтаму пытанню нічога не зроблена.

Прасіць т. ШАБОЛТАСА і т. РАКСІНА прыцягнуць віноўных у выпуску малавесных і вышэй установленай вагі булачных і кандзіцерскіх вырабаў у продаж і нескарыстанні ўстаноўленай рэцэптуры—да адказнасці.

2. Прасіць т. ШАБОЛТАСА і т. РАКСІНА абавязаць усіх кіраўнікоў, прадпрыемстваў, выпякаючых булачныя і кандзіцерскія вырабы строга прытрымлівацца ўстаноўленай рэцэптуры пры выпечцы булачна-кандзіцерскіх вырабаў.

Катэгарычна забараніць выпускаць з прадпрыемстваў у продаж вырабы, якія не адпавядаюць устаноўленай ваве.

3. Указаць Горунутгандлям т. САФЬЯНУ (Менск), т. МОЙНУ (Віцебск), СТРУТЫНСКАМУ (Бабруйск) на адсутнасць з іх боку нагляда за недапушчэннем у продаж малавесных булачных і кандзіцерскіх вырабаў і прымяненнем кіраўнікамі прадпрыемстваў устаноўленай рэцэптуры.

Абавязаць Менскі, Віцебскі, Бабруйскі і астатнія Горрайунутгандлі, у якіх вытвараецца выпечка булачных і кандзіцерскіх вырабаў у штуках, устанавіць сістэматычны нагляд за недапушчэннем выпуска у продаж як малавесных, так і вышэйустаноўленай вагі булачных і кандзіцерскіх вырабаў, поўнасцю захоўваючы ўстаноўленую рэцэптуру.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР Н. ГУРЭВІЧ

---

# Дадатак да пастановы аб нормах натуральнай убылі

## Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР

19 ліпеня 1935 г. № 413 г. Менск.

У дадатак да пастановы НКУГ БССР № 234 ад 11 мая 1935 года аб устанаўленні групавых норм натуральнай убылі, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Для магазінаў, якія не вядуць патаварнага, а таксама групавога ўчота паступлення тавараў, але якія вядуць выключна сумавы ўчот паступлення тавараў устанавіць наступныя нормы натуральнай убылі да звароту:
1 група—магазіны змешаныя продтаварныя 0,30 проц.
2 група—магазіны змешаныя з асартыментам фуража . . . . . . . . 0,35 проц.
3 група магазіны змешаныя продтаварныя з асартыментам хлеба-булачных вырабаў 0,40 проц.

2. Устаноўленыя п. I нормы ўбылі для змешаных магазінаў прымяняюцца на зварот усяго асартымента продтавараў. Прамтаварны асартымент пры наяўнасці яго ў магазінах выключаецца з таваразварота і на гэты асартымент устаноўленыя нормы ўбылі не прымяняюцца. Ва ўстаноўленыя нормы ўключаецца бой і лом вінаводачных вырабаў.

3. Устаноўленыя нормы распаўсюджваюцца ў гандлёвай сетцы 30 гарадоў БССР і прымяняюцца на прадзены тавар з 1-га красавіка 1935 г.

Нам. Народнага Камісара Унутранага
Гандля БССР І. Верба

# Аб скажэнні палітыкі цэн сыстэмай Орса Днепра-Дзвінскага басейна

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

19 ліпеня 1935 г. **№ 408** г. Менск

Праверкай Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі ўстаноўлена, што ОРС Днепра-Дзвінскага басейна і параходныя буфеты груба парушылі пастанову Наркамунутгандля СССР № 185 ад 29 сакавіка г. г. і інструкцыі НКУГ і ГалоўОРС'а Наркомвода аб устанаўленні накідак на буфетную прадукцыю, што выражаецца ў наступным:

а) закупка прадуктаў у рознічнай сетцы па рознічных цэнах і ўстаноўленне гандлёвых накідак на рознічныя цэны (буфеты параходаў „Варашылаў," „Гікало", „Веліса");

б) загадчыкі буфетаў параходаў парушылі дырэктыву Наркамунутгандля СССР ад 29 ліпеня г. г., якая прадстаўляе права буфетам параходаў у час следвання праводзіць закупкі прадуктаў на рынку па рыначных цэнах, неабходных толькі для задавальнення патрэб пасажыраў, але фактычна праводзілі загатоўку прадуктаў і для базы ОРС'а, а база ў сваю чаргу снабжала гэтымі прадуктамі буфеты параходаў з накідкай на рыначныя цэны;

в) некаторыя буфеты неправільна калькуліравалі рознічную цану на водку, г. зн. праводзілі гандлёвую накідку не на кошт водкі, але на кошт пасуды і пробкі (параход „КІМ"). Буфет парахода „КІМ" рабіў дадатковую гандлёвую накідку ў 20—25 проц. на рознічную цану булак, баранак, здобы;

г) ОРС Днепра-Дзвінскага басейна не толькі не ажыццявіў нагляда і кантроля за параходнымі буфетамі, але даваў дырэктывы, якія супярэчаць пастанове НКУГ (дазволіў рабіць накідкі на адпускныя цэны магазінаў, г. зн. на рознічныя цэны).

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Указаць кіраўніцтву ОРС Днепра-Дзвінскага басейна (т. т. БАСКІНУ, ФРЫДБЕРГУ і ЗАГЕРСКАМУ) на грубае скажэнне сістэмай ОРС'а законаў аб савецкім гандлю і папярэдзіць, што за ўсякае скажэнне палітыкі цэн у далейшым, як параходнымі і прыстаньскімі буфетамі, так і ОРС'ам,—яны будуць прыцягнуты да суровай адказнасці і акрамя гэтага будзе забаронена праводзіць усялякія закупкі для параходных буфетаў.

2. Прапанаваць ОРС'у Днепра-Дзвінскага басейна (т. БАСКІНУ) устанавіць такі парадак кантроля параходных буфетаў, які забяспечыў бы поўнае выкананне апошнімі ўсіх пастаноў і дырэктыў НКУГ СССР аб устанаўленні накідак на буфетную прадукцыю і законаў аб савецкім культурным гандлі.

3. Прапанаваць Гор. Райунутгандлям тых раёнаў, дзе курсіруюць параходы, праводзіць перыядычныя праверкі параходных буфетаў.

4. Лічыць правільным рашэнне Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці загадчыка парахода „Веліса" ПАЎЛАВА за самавольнае павышэнне цэн на селядцы з мэтай асабістай нажывы і прасіць пракурора аб паскарэнні слухання справы.

Народны Камісар Унутранага
Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

---

# Аб упарадкаванні дзейнасці гандлёвых агентаў і ўпаўнаважаных

## ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандлю БССР

9 ліпеня 1935 г. **№ 247** г. Менск.

На падставе пастановы Комзаг СНК СССР і Наркамунутгандля СССР ад 15. II-1935г., № 565—95 „Аб упарадкаванні дзейнасці агентаў і упаўнаважаных, камандыруемых дзяржаўнымі, каапераныйнымі і грамадскімі арганізацыямі і прадпрыемствамі для правядзення ўнепланавых закупак прамысловых тавараў шырспажыва", з а г а д в а ю:

1. Абавязаць агентаў і ўпаўнаважаных па ўнепланавых закупках промтавараў шырспажыва рэгістравацца па месцу дзейнасці іх, у гарадах у Горунутгандлях, а ў раёнах у Райунутгандлях, ці старшых інспектароў Унутранага гандля, а таксама прадстаўляць гэтым органам звесткі аб усіх праведзеных аперацыях (здзелках).

2. Забараніць усім гандлюючым арганізацыям БССР заключэнне здзелак на прадажу промтавараў шырспажыва з агентамі і ўпаўнаважанымі, камандыруемымі з парушэннем пастановы Комзаг СНК і НКУГ СССР ад 15. II-35г. § 5 і якія не маюць рэгістрацыйных пасведчанняў, а Райунутгандлям рэгістрацыю гэткіх не праводзіць.

3. Абавязаць Белтаварбюро (бюро попыта і прапаноў тавараў) даць указанне месцам не рэгістраваць здзелкі, заключаныя з парушэннем гэтага загада і аб усіх выпадках такіх парушэнняў паведамляць Наркамунутгандлю.

Народны Камісар Унутранага Гандля
БССР **Н. Гурэвіч**

